ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 34 7 верасня 1995 г.

(2436) Выдаецца з 1955 г. Цана 800 рублёў.



**1-га верасня ў школах Беларусі пачаўся новы навучальны год. Цеснавата будзе ў класах, таму што на 17 тысяч павялічыўся кантынгент вучняў, а школ прыбавілася толькі 14, астатнія 18 недабудаваны. Бацькам прыйдзецца падумаць, як карміць дзяцей у школе, бо адмяняюцца экспрэс-снеданні і наўрад ці застануцца школьныя сталоўкі. У настаўнікаў таксама настрой не лепшы, бо праз павышэнне іх невысокай зарплаты пакуль гаворкі на дзяржаўным узроўні няма.**

**Але нягледзячы на ўсе цяжкасці і турботы, першы дзень у школе -- свята. Свята і радасць для ўсіх!**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*ГІСТАРЫЧНАЯ РЭТРАСПЕКТЫВА*

# НЕНАПАДЗЕННЕ

У канцы жніўня 1939 года над светам нібыта ўзарвалася бомба: СССР і Германія, што нядаўна кляймілі адзін аднаго на чым свет стаіць, нечакана для ўсіх падпісалі дагавор аб ненападзенні. Ніхто яшчэ не ведаў, што да яго прыкладваўся сакрэтны пратакол, у якім быў зафіксаваны падзел Усходняй Еўропы на сферы ўплыву паміж Масквой і Берлінам.

Праз тыдзень Германія ўступіла ў Польшчу, а яшчэ праз 17 дзён савецка-польскую мяжу перасекла Чырвоная Армія. Як і прадугледжвалася ў сакрэтных дагаворанасцях, Польшча была падзелена паміж СССР і Германіяй па лініі рэк Нарэў -- Вісла -- Сан.

Да гэтага часу робіцца спробы растлумачыць гэтую акцыю Сталіна "клопатам аб бяспецы нашай краіны", яго імкненнем "адсунуць заходнія межы СССР" напярэдадні гітлераўскай агрэсіі, "прыйсці на дапамогу беларускім і украінскім братам", якія жывуць ва ўсходніх раёнах Польшчы і сапраўды прыгнятаюцца. Тут толькі частка праўды.

Другі, ценявы бок гэтай праўды доўгія гады проста не афішыраваўся. Размова ідзе перш за ўсё аб тым, што ўзнаўленне справядлівасці ў адносінах да Беларусі і Украіны суседнічала з "тэрытарыяльна-палітычнай перабудовай". Стаўшы на шлях падзелу здабычы з драпежнікам, Сталін стаў гаварыць моваў ультыматумаў і пагроз з суседнімі, асабліва малымі краінамі.

І яшчэ адна цытата -- для яснасці. Са справаздачы германскага пасла ў Маскве графа Шуленбурга аб гутарцы, што адбылася ў яго з Молатавым 10 верасня 1939 года: "Молатаў падышоў да палітычнага боку пытання і заявіў, што савецкі ўрад мае намер скарыстаць далейшы рух германскіх войскаў і заявіць, што Польшча развальваецца на кавалкі і што ў выніку гэтага Савецкі Саюз павінен прыйсці на дапамогу ўкраінцам і беларусам, якім "пагражае" Германія. Гэтая прычына прадставіць інтэрвенцыю Савецкага Саюза прыстойнай у вачах мас і дасць Савецкаму Саюзу магчымасць не выглядаць агрэсарам". Так усё і адбылося...

### НЕТРЫВАЛЫ МІР

"Вялікі вызваленчы паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь" быў забыты ўсяго толькі праз два гады пасля свайго ажыццяўлення, а больш дакладна, з 22 чэрвеня 1941 года. Замоўчванне важных падзей 1939 года дасягнула мэты: поўную панараму той восені мы ўжо не ўзновім.

Паспрабуем узнавіць хаця б фрагменты.

Савецка-германскі дагавор аб ненападзенні жніўня 1939 года ўзрушыў усіх. На супрацьлеглым баку зямнога шара пайшоў у адстаўку ўрад Японіі -- адзіная ў гісторыі гэтай краіны адстаўка з-за дагавора дзвюх іншых краін. Тым часам хутка ўзрастала і без таго ўжо крайняя напружанасць паміж Германіяй і Польшчай.

У апошнія дні лета вялікія групы слухачаў Акадэміі Генштаба Чырвонай Арміі былі вызвалены ад заняткаў і адпраўлены ў Кіеўскую і Беларускую асобыя ваенныя акругі, дзе, як ім сказалі, чакаліся "буйныя манеўры". Акрамя таго быў прыняты яшчэ шэраг мер: праведзены вялікі вучэбны збор воінаў запасу ў шасці ваенных акругах; затрымана дэмабілізацыя стараслужачых; спынены водпускі, прыведзены ў баявую гатоўнасць войскі, узбраенне і транспарт Беларускай, Кіеўскай асобых ваенных акруг і Ленінградскай ваеннай акругі.

31 жніўня ў Польшчы пачалася мабілізацыя. У гэты ж дзень у Маскве адкрылася пазачарговая сесія Вярхоўнага Савета СССР. Перш за ўсё быў ратыфікаваны дагавор з Берлінам: з вялікай прамовай з гэтай нагоды выступіў Молатаў. Ён даў зразумець, што ініцыятарам збліжэння СССР і Германіі з'яўляецца сам таварыш Сталін: "Таварыш Сталін біў у самую кропку, выкрываючы падкопы заходнееўрапейскіх палітыкаў, што імкнуліся сутыкнуць ілбамі Германію і Савецкі Саюз. Трэба прызнаць, што і ў нашай краіне былі некаторыя блізарукія людзі, якія, захапіўшыся спрошчанай антыфашысцкай агітацыяй, забываліся пра гэтую правакатарскую працу нашых ворагаў".

І больш ніводнага слова пра нашу былую антыфашысцкую палітыку. "Блізарукія" людзі ў СССР былі ашаломлены. А дальнабачны Вячаслаў Міхайлавіч больш не вёў не толькі "спрошчанай", але і ўвогуле ніякай агітацыі супраць фюрэра -- да той самай мінуты, калі яму давялося паведаміць савецкаму народу аб нечуваным у гісторыі вераломстве.

Са слоў Молатава значыла, што"ненападзенне" не азначае "нейтралітэт", але нешта большае: "Мы сталі і стаім за дружбу народаў СССР і Германіі. (Бурныя, працяглыя апладысменты)".

Сфармулявана асцярожна. "Дружба паміж народамі" -- што ж тут такога? Але не пройдзе і месяца, як фармулёўкі стануць больш смелымі.

**(Працяг на 3-й стар.).**

**ГУТАРКА З МАЭСТРА, ЯКОГА НЕ ЗАЎВАЖАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ І ЛЮБЯЦЬ У МАСКВЕ**

# ПРАЦУЮ АД СЭРЦА...

**Сёння на старонках газеты вельмі цікавы госць -- маэстра Міхаіл ФІНБЕРГ, кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, чалавек вельмі папулярны і паважаны нашымі аматарамі музыкі.**

*-- Міхаіл Якаўлевіч, з моманту вашай апошняй сустрэчы з чытачамі "Голасу Радзімы" прайшло даволі шмат часу -- гадоў сем-восем...*

-- А можа і ўсе дзесяць.

*-- Але ўжо тады вядомасць і ваша асабістая, і аркестра, была значная. Як мы ўсе любім паўтараць, "час ідзе". Гэты ж час прынёс вам новую вялікую папулярнасць, аўтарытэт "міжнароднага маштабу". А сам маэстра Фінберг усім задаволены?*

-- Адкажу коратка: я сапраўды задаволены. Асабліва тым, што тычыцца творчай часткі. Аркестр вельмі "вырас", мае значныя грамадска-асветніцкі ўплыў -- гэта безумоўна. Мы ганарымся, што ў нас шмат работ зроблена на аснове беларускай літаратуры, паэзіі, і гэтым мы адрозніваемся ад многіх іншых. Хаця аркестр шмат таксама працуе і ў класічным накірунку, і ў джазавым. Зроблена немала, і я веру: у нас ёсць такія работы, якія назаўсёды застануцца ў музычнай нацыянальнай спадчыне. На жаль, сёння яны не запісаны на тэлебачанні, даволі рэдка гучаць па радыё. Але ж яны зроблены, яны існуюць, і я гэтым вельмі ганаруся. Час і свае памылкі дапамагае нам ацэньваць не горш, чым вартасці.

*-- У такім выпадку, ці быў дасягнуты за апошнія дзесяць год нейкі творчы максімум, зразумела, калі ён увогуле вызначаўся?*

-- Вызначаць нейкі максімум вельмі цяжка, бо, як я ўжо казаў, мы працуем у розных жанрах і накірунках. Мы працуем у камерным жанры, сталі першымі выканаўцамі шостай сімфоніі Глебава, п'ес В.Іванова і іншых беларускіх кампазітараў.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**



*З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ*

## ПРЫПЫНЕНА ДЗЕЙНАСЦЬ СВАБОДНЫХ ПРАФСАЮЗАЎ

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прыпынена да ўнясення адпаведных змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб прафесіянальных саюзах" дзейнасць Свабоднага прафсаюза Беларусі і пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі Мінскага метрапалітэна, прафесіянальнага саюза чыгуначнікаў і транспартных будаўнікоў Рэспублікі Беларусь.

Пракуратуры загадана ўнесці ў адпаведныя суды прадстаўленні аб забароне дзейнасці Свабоднага прафсаюза Беларусі і пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі Мінскага метрапалітэна, прафесіянальнага саюза чыгуначнікаў і транспартных будаўнікоў Рэспублікі Беларусь.

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## НЕ ДА АДПАЧЫНКУ

На пытанне карэспандэнта Белінфарма, калі Прэзідэнт краіны пойдзе ў водпуск, Аляксандр Лукашэнка адказаў, што сітуацыя ў рэспубліцы не дазваляе яму пакуль думаць пра адпачынак.

-- У няпростых эканамічных умовах уступае Беларусь у асенне-зімовы сезон, -- сказаў Прэзідэнт. -- Выканаўчай уладай падрыхтаваны шэраг указаў, накіраваных на стабілізацыю становішча ў прамысловасці і аграрным сектары, ідзе інтэнсіўная работа па рэформе аплаты працы, будуць зрухі і ў падатковай сістэме. Словам, неадкладных спраў у кіраўніка дзяржавы столькі, што суткі трэба было б павялічыць удвая. Але я малады, на здароўе не скарджуся і свой даволі шчыльны рабочы графік з дня на дзень стараюся перавыканаць.

Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што раніца ў яго пачынаецца ў 5.30 з невялікай зарадкі, а потым у любое надвор'е ён робіць пяцікіламетровую прабежку. Невялікае снеданне, і ўжо ў 8.15 Прэзідэнт -- за рабочым сталом. Да 16 гадзін працуе ў горадзе, а затым перабіраецца ў сваю загарадную рэзідэнцыю, дзе зноў да глыбокага вечара займаецца дзяржаўнымі справамі. Выключэнне складаюць два дні ў тыдзень, калі Аляксандр Рыгоравіч інтэнсіўна трэніруецца.

-- Так я скідваю стомленасць, зноў адчуваю сябе бадзёрым і здольным да актыўнай працы, -- адзначыў Лукашэнка. -- У водпуск жа пайду, калі мае выбаршчыкі адчуюць, што іх жыццё становіцца лепшым і больш бяспечным.

*ПАЗІЦЫЯ ФПБ*

## КАНФЛІКТ ТРЭБА ВЫРАШАЦЬ У РАМКАХ ЗАКОНА

У пісьме, якое Прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі накіраваў Прэзідэнту, выказана занепакоенасць тым, што на Мінскім метрапалітэне парушаецца заканадаўства аб працы і прафесіянальных саюзах. Уся віна за забастоўку ўскладаецца выключна на тых, хто ў ёй удзельнічаў. Не ўлічваецца, што канфлікт пароджаны парушэннямі з боку адміністрацыі ўмоў калектыўнага дагавора, ігнараваннем патрабаванняў прафсаюза.

Грубыя парушэнні правоў і паўнамоцтваў прафсаюзаў працягваюцца і пасля канфлікту. Апячатана памяшканне прафкома метрапалітэна, ганенням падвяргаюцца яго члены. Адміністрацыя па свайму меркаванню вырашае пытанне працоўных адносінаў з работнікамі, праводзіць масавыя звальненні.

*"Рашэнні, прынятыя рэферэндумам, уступілі ў супярэчнасць з заканадаўствам па шэрагу пытанняў. Мы ведаем, як прагаласаваў народ па мовах. Але ж у законе аб мовах прыярытэт аддадзены беларускай мове. Патрэбны тэрміновыя змены ў названы закон. А яны могуць быць прыняты толькі Вярхоўным Саветам. Але ж у заканадаўчым органе такіх прапаноў нават няма. Парадокс? Так. Бо камісія, якой трэба ўносіць змены, ад такой работы адхрысцілася. Сітуацыя ненармальная і можа выклікаць неразбярыху, а яна можа перарадзіцца ў бескантрольнасць".*

*Дзмітрый БУЛАХАЎ,*
*старшыня Камісіі па заканадаўству Вярхоўнага Савета Беларусі.*

*ДЫЯСПАРА*

## ЦВІЦЕ Ў ЭСТОНІІ "БЭЗ"

Цудоўны падарунак атрымалі жыхары паўночна-ўсходняга рэгіёна Эстоніі, а дакладней, яе беларуская дыяспара, ад сваіх суайчыннікаў-сяброў з гомельскага мастацкага аб'яднання "Мэя" ("Мастацтва. Экалогія. Я.").

Намаганнямі суполкі беларускай культуры "БЭЗ" горада Йыхві і мастакоў Святланы Курашовай, Уладзіміра Андрыянава і Ларысы Зуевай у ліпені ва ўтульнай зале Йыхвінскай філіі Эстонскага мастацкага музея адкрылася выстава іх твораў пад назвай "Мастацтва супраць болю". Цяжкасці з перавозам работ, з атрыманнем віз не спынілі мастакоў, і як лепшая ўзнагарода -- прыгожыя кветкі, беларускія песні ў іх гонар, спелы каравай на льняным вышываным ручніку і зацікаўленыя вочы гледачоў.

Беларускія краявіды, кветкі, нацюрморты, тэматычныя кампазіцыі ў тэхніцы акварэлі атрымалі выдатную адзнаку ў дзеячаў мастацтва і грамадскасці Эстоніі. Загадчыца музея Хульда Лепіск на адкрыцці выставы адзначыла, што творы гомельскіх мастакоў, выкананыя на высокім прафесійным узроўні, сапраўды як цудоўныя лекі супраць болю, болю ў шырокім сэнсе гэтага слова -- па страчаных каштоўнасцях, па Беларусі. Гэтая выстава сталася працягам вялікай праграмы "БЭЗа" (беларуска-эстонскага згуртавання) і яе старшыні Маргарыты Астравумавай па прапагандзе беларускай культуры ў Эстоніі, па выхаванні пачуцця нацыянальнай годнасці і адраджэння беларускасці сярод беларусаў Эстоніі. У межах гэтай праграмы ў верасні мінулага года адбылася выстава віленскіх мастакоў-беларусаў, а яшчэ раней -- выстава аб'яднання беларускіх мастакоў Балтыі "Маю гонар".

Пакінуўшы свае працы ў Эстоніі, мастакі вярталіся ў Гомель з эцюдамі, зробленымі на балтыйскім узбярэжжы, і з добрымі ўспамінамі аб сардэчнай сустрэчы з землякамі, якія ў эміграцыі захоўваюць родную мову, нацыянальную свядомасць і не забываюць сваю Радзіму.

*РЭЛІГІЯ І ДЗЯРЖАВА*



Царква ў вёсцы Мурава Пружанскага раёна была разбурана ў 60-х гадах. Доўга марылі веруючыя аб яе адраджэнні. І вось тры гады назад з дапамогай мясцовага калгаса імя Калініна яны вырашылі адбудаваць храм. І месца выбралі ўдала -- маляўнічае ўзвышша каля вёскі. Цяпер тут вядуцца аддзелачныя работы.

**НА ЗДЫМКУ:** стараста абшчыны Аляксандр КАРЭТКА і старшыня калгаса Пётр БІЛЕЦКІ на будаўнічай пляцоўцы.

*ПАРТЫЙНЫЯ РАЗБОРКІ*

## ХТО ЎКРАЎ ДАКУМЕНТЫ ЛДПБ?

БелаПАН атрымаў інфармацыйнае паведамленне з Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, падпісанае яе старшынёй В. Крывенкам, у якім гаворыцца, што "былы член ЛДП С. Гайдукевіч з групай з пяці чалавек аб'явілі сябе вышэйшым саветам партыі і разаслалі ў сродкі масавай інфармацыі не адпавядаючыя ісціне звесткі, а таксама выкралі са штаба ЛДП асобныя дакументы". У сувязі з гэтым старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі звярнуўся ў праваахоўныя органы з заявай аб узбуджэнні крымінальнай справы па данаму факту.

*ПАСЛЯ ЗАБАСТОЎКІ*

## МІЛЬЯРДНЫ ІСК

Мінская транспартная пракуратура падала іск на Свабодны прафсаюз электрадэпо "Маскоўскае" і Мінскі прафсаюз работнікаў метрапалітэна і чыгуначнага транспарту па пакрыццю матэрыяльнага ўрону ў сувязі з правядзеннем незаконнай забастоўкі метро -- на 1 мільярд 764 мільёны рублёў.

Мінгарсуд пачне разгляд гэтага іску, як толькі прынятае рашэнне аб прызнанні забастоўкі незаконнай уступіць у законную сілу.

Звольненыя метрапалітэнаўцы наладзілі пікетаванне будынкаў адміністрацыі Прэзідэнта і Мінгарвыканкома, патрабуючы свайго аднаўлення на працы і вызвалення прафлідэраў, якія падвергліся адміністрацыйнаму арышту.

*АПЫТАННІ*

## ЖУРБОТНЫ НАСТРОЙ

Толькі 9,7 працэнта апытаных Навукова-даследчым эканамічным інстытутам па заказу Міністэрства эканомікі рэспублікі сярод розных слаёў насельніцтва Мінска і Мінскай вобласці спадзяюцца на паляпшэнне свайго дабрабыту, песімізм жа адносна бліжэйшай перспектывы пераважае ў 40,9 працэнта. Каля 30 працэнтаў прагназіруюць нязменнасць свайго ўзроўню жыцця. Больш чым 20 працэнтам рэспандэнтаў вызначыць сваю будучыню было цяжка.

Пагаршэнне свайго матэрыяльнага становішча чакаюць 44,2 працэнта рабочых дзяржпрадпрыемстваў, 33,9 -- прадпрыемстваў новых формаў уласнасці, 44 -- калгаснікаў, работнікаў саўгасаў, спецыялістаў і служачых, 45,5 -- пенсіянераў, 46 працэнтаў -- беспрацоўных і хатніх гаспадынь.

33,3 працэнта апытаных прадпрымальнікаў і бізнесменаў спадзяюцца на паляпшэнне свайго дабрабыту, 31 -- лічаць, што ён не зменіцца.

## ПРАЯДАЕМ УСЁ

У пераважнай большасці насельніцтва Беларусі (75,5 працэнта) затраты на прадукты харчавання складаюць да 75 працэнтаў іх сямейнага бюджэту.

Затраты на харчаванне на ўзроўні еўрапейскіх краін, г. зн. прыкладна 25 працэнтаў ад даходу, назіраюцца ў 4 працэнтаў апытаных.

Больш чым 75 працэнтаў сямейнага бюджэту трацяць на харчаванне 79,9 працэнта апытаных рабочых дзяржаўных прадпрыемстваў, 66,7 працэнта калгаснікаў і рабочых саўгасаў, 74,4 працэнта інжынерна-тэхнічных работнікаў і спецыялістаў.

"Праядаюць" усе свае грошы 93,2 працэнта пенсіянераў, 58 працэнтаў навучэнцаў і студэнтаў, 38,1 працэнта прадпрымальнікаў і бізнесменаў. Такія вынікі сацыялагічнага даследавання розных сацыяльных груп Мінска і Мінскай вобласці, атрыманыя шляхам анкетнага апытання Навукова-даследчым эканамічным інстытутам Міністэрства эканомікі Беларусі.

*ЧЫМ СЛАВІМСЯ*

## У ТУРМАХ ПОЛЬШЧЫ

Па звестках БелаПАН, у 1995 годзе праваахоўнымі органамі Польшчы за проціпраўныя дзеянні затрыманы 504 беларускія грамадзяніны. Для параўнання: такія ж адносіны з праваахоўнымі органамі Польшчы за аналагічны перыяд мелі 904 грамадзяніны Украіны, 348 -- Расійскай Федэрацыі, 311 -- Літоўскай Рэспублікі і 283 грамадзяніны Германіі.

Па звестках за першае паўгоддзе, у месцах пазбаўлення волі на тэрыторыі Польшчы ўтрымліваліся 230 беларускіх грамадзян, якія адбываюць пакаранне згодна з прыгаворамі польскіх судоў. Асуджаны яны ў асноўным за разбоі, рабаўніцтва і крадзяжы аўтатранспарту. У той жа час у месцах пазбаўлення волі на тэрыторыі Беларусі сёння ўтрымліваецца толькі двое грамадзян Польшчы.

*ЗБАВЕННЫ ГРЫБ*

## БЛАКІРУЕ РАКАВЫЕ ПУХЛІНЫ

Гомельскі завод "Карал", апынуўшыся ў складанай эканамічнай сітуацыі, рызыкнуў узяцца за нетыповую для сябе справу і асвоіў прамысловую вытворчасць малавядомага пакуль у Беларусі, ды і ў краінах СНД японскага грыба сі-такі. Днямі ў падсобным цэху прадпрыемства атрыманы першыя дзесяткі кілаграмаў новай прадукцыі.

Раней усходні грыб вырошчвалі толькі на доследных плантацыях Інстытута лесу Акадэміі навук Беларусі. Каштоўнасць гэтага прадукта не столькі ў смакавых і пажыўных якасцях (хаця яны выдатныя), колькі ў лячэбным эфекце: ён блакіруе ракавыя пухліны.

*КАРОВА -- ЖАДАНЫ ПРЫЗ*



Трыццаць пяць гадоў пражылі разам у вёсцы Вялікія Аўцюкі Калінкавіцкага раёна Яўгенія Іванаўна і Аляксандр Сяргеевіч СУПРУНЫ (на здымку). Усяго было ў іх жыцці, але яны -- аптымісты.

Некалькі гадоў назад здарылася няшчасце з Аляксандрам Іванавічам: трапіў пад жняярку камбайна, стаў інвалідам на абедзве нагі. Які пасля гэтага работнік, асабліва на вёсцы!

Доўгі час жылі без каровы -- не было за што купіць. А тут падаспела свята гумару, якое праходзіла ў Аўцюках. І вось у конкурсе на лепшае падвор'е сям'я Супруноў выйграла прыз -- карову! Сапраўды, радасці не было канца.





## КОЛАСАЎСКІ МУЗЕЙ У ЛЮСІНЕ

**Добрую памяць захоўваюць у далёкай палескай вёсцы Люсіна, што ў Ганцавіцкім раёне, пра народнага паэта Якуба Коласа. У мясцовай школе чатырнаццаты год працуе коласаўскі музей, у якім пабывала за гэтыя гады больш 50 тысяч турыстаў. Акрамя беларусаў, тут былі госці з Расіі і Амерыкі, палякі, немцы, азербайджанцы, кіргізы...**

**Удала падабраны матэрыял расказвае пра гады (1902--1904), калі тут настаўнічаў Якуб Колас. Сабрана больш за дзвесце экспанатаў, якія расказваюць пра той час, добра дапаўняюць асноўную экспазіцыю.**

**НА ЗДЫМКАХ: у музеі Якуба Коласа ў Люсінскай школе; вучаніца другога класа Воля МЕЛЕХАВЕЦ у "Хаце палешука" -- так называецца адзін з раздзелаў музея.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

# НЕНАПАДЗЕННЕ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

А вось паведамленне з Германіі, якое тычыцца тых жа прыкладна гадзін, калі Вярхоўны Савет апладзіраваў Молатаву: "Берлін, 1 верасня (ТАСС). Сёння, у 10 гадзін раніцы, адкрылася пасяджэнне германскага рэйхстага. Перад прысутнымі з вялікай прамовай выступіў Гітлер. У сваёй прамове Гітлер заявіў, што з-за таго, што Польшча адхіліла германскія мірныя прапановы, больш няма шляхоў для мірнага вырашэння германа-польскіх спрэчных пытанняў. Гітлер адзначыў таксама, што ўчора вечарам польскія рэгулярныя часці перайшлі германскую мяжу і што сёння раніцай германскія войскі выступілі супраць палякаў".

Што ж адбывалася на самай справе?

Польская армія гераічна супраціўлялася. Нямецкія танкавыя кліны з вялікай цяжкасцю прабіваліся наперад, губляючы тэхніку і жывую сілу. Не ўдалося знішчыць раптоўным ударам і польскую авіяцыю. Змагаліся акружаныя гарады Люблін, Гдыня, Варшава і многія іншыя. Усе газеты свету абышла фатаграфія, на якой польская кавалерыя неслася ў атаку на нямецкія танкі.

Падзеі пачаліся і цягнуць за сабой мільёны жыццяў, як у варонку. А фюрэр пераканаўча абгрунтоўвае сваю доўгатэрміновую мірную палітыку ў адносінах да Савецкага Саюза: "Германія і Расія змагаліся адна супраць другой у сусветнай вайне, і абедзве сталі ахвярамі сусветнай вайны. Гэта не здарыцца другі раз...".

Хаця паўсюдна арміі вермахта пад камандаваннем Рундштэта, фон Бока, Клюге, Кюхлера і Рэйхенаў атрымлівалі перамогі, яны дасягаліся дарагой цаной. Ужо 3 верасня пасол Германіі ў Маскве Шуленбург звярнуўся да Молатава з просьбай аб тым, каб Чырвоная Армія як мага хутчэй увайшла ва ўсходнія вобласці Польшчы. У тыя самыя ўсходнія вобласці, якія аддаваліся Савецкаму Саюзу па сакрэтнаму пратаколу дагавора ад 23 жніўня 1939 года. Прычыны такой просьбы былі відавочныя. Германскае камандаванне хацела скаваць значную частку польскіх войск на ўсходзе і тым самым аблягчыць рашэнне ўласных задач.

Савецкае кіраўніцтва чакала, хаця рашэнне аб уводзе савецкіх войск у Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну было ўжо прынята. Да таго ж і становішча ў Польшчы было даволі супярэчлівым. Нягледзячы на прагнозы, баявыя дзеянні там насілі ўпарты характар.

У Маскве чакалі падзення Варшавы, што дазволіла б увесці войскі ў заходнія вобласці. Што тычыцца Варшавы, то перадавыя нямецкія часці ўжо 9 верасня дасягнулі яе прыгарадаў. У гэты ж дзень В.Молатаў накіраваў віншаванне Шуленбургу: "Я атрымаў Ваша паведамленне аб тым, што германскія войскі ўвайшлі ў Варшаву. Калі ласка, перадайце мае віншаванні і вітанні ўраду Германскай імперыі". Віншаванні аказаліся крыху заўчаснымі: Варшава трымалася аж да 27 верасня 1939 года.

Савецкі бок фарсіраваў свае ваенныя прыгатаванні. Адначасова ішла апрацоўка грамадскай думкі ў Савецкім Саюзе і за мяжой. 14 верасня ў "Праўдзе" быў апублікаваны артыкул "Аб унутраных прычынах паражэння Польшчы". Натуральна, асабліва падкрэслівалася бяспраўнае становішча 11 [illegible]ьёнаў беларусаў і ўкраінцаў [illegible]

З чацвёртага верасн[illegible] , СССР пачалася кампанія прызыву ў армію моладзі. Упершыню прызыў праводзіўся на падставе новага закона. У Беларусі і на Украіне прызывалі і ваеннаабавязаных з запаса. [illegible]ь ваенных акруг прыводзіл[illegible] баявую гатоўнасць. Простыя людзі, вядома, не маглі ведаць пра ўсё гэта ў поўнай меры, але прадчуванне грозных падзей вісела ў паветры. Ды і ці маглі яны ведаць, што 11 верасня нарком абароны СССР выдаў загад аб сканцэнтраванні войск Кіеўскай і Беларускай асобых ваенных акруг на заходняй мяжы.

У час лістападу 1939 года вайна і мір імкнуліся выцicнуць адно аднаго з жыцця краіны з пераменным поспехам. Шостага верасня ззяла сонейка: у многіх гарадах адбыліся вялікія дэманстрацыі -- святкаваўся Міжнародны дзень юнацтва. У Мінску па цэнтру горада прайшло больш за 80 тысяч чалавек. Напэўна, чалавека ніколі не перастане здзіўляць яго ж уласная здольнасць баляваць у час чумы...

Сярод лозунгаў ЦК ВЛКСМ да Міжнароднага дня юнацтва быў і такі: "Царкоўнікі і сектанты імкнуцца атруціць свядомасць моладзі ядам рэлігіі. Дадзім рашучы адпор варожай падрыўной рабоце цемрашалаў! Шырэй разгорнем антырэлігійную прапаганду!" Рэлігія названа ядам, гэта значыць з "опіуму для народа" ўжо ператварылася ў цыяністы калій... А ў гэты час нямецка-фашысцкія войскі заваёўвалі тэрыторыю для Майданека і Асвенціма...

## ДРУЖБА ПА РАЗЛІКУ!

Нарэшце надышоў дзень 17 верасня 1939 года. На зямлю, прызначаную пад лагеры смерці, уступалі будучыя гаспадары гэтых лагераў. А мы яшчэ жылі ранейшым жыццём, якое хутка здасца страчаным раем. Як напісаў тады вядомы паэт:

**Был час обычный,**
**час дневной,**
**Сентябрьский ветер**
**листья мчал,**
**Вдруг громче грома**
**над страной**
**Спокойный голос**
**прозвучал...**

Спакойны голас належаў Молатаву. Ён звярнуўся да народа, як кандуктар у трамваі: "Грамадзяне і грамадзянкі!..." Амаль дваццацігадовы мір скончыўся. На дварэ гістарычны дзень 17 верасня 1939 года.

Моладзь, якая не застала папярэдняй вайны, якая сталела пад магутным прапагандысцкім прэсам, успрыняла ўсё гэта ўзбуджана: вось яно. Пачалося!.. Рэакцыя старэйшых пакаленняў была, вядома, іншай. А самі ўдзельнікі падзей былі заняты справай.

У 2 гадзіны ночы ў Крэмль быў выкліканы германскі пасол граф фон Шуленбург. Сталін прыняў яго ў прысутнасці Молатава і Варашылава. Пасля ўзаемных вітанняў паслу аб'явілі, што сёння, 17 верасня 1939 года, у 6 гадзін раніцы, Чырвоная Армія пяройдзе польскую мяжу на ўсім працягу ад Полацка да Камянец-Падольска. Каб пазбегнуць магчымых інцыдэнтаў паміж савецкімі і нямецкімі лётчыкамі была перададзена просьба, каб нямецкая авіяцыя не залятала на ўсход ад лініі Беласток-Брэст-Львоў.

На мяжы з Польшчай было сканцэнтравана 54 стралковыя і 13 кавалерыйскіх дывізій, 18 танкавых брыгад і 11 артылерыйскіх палкоў рэзерву Галоўнага камандавання агульнай колькасцю каля 600 тысяч чалавек. Іх баявыя дзеянні забяспечвалі 4 тысячы танкаў, 5 500 гармат і 2 тысячы самалётаў. Гэтыя сілы былі падзелены на два фронты -- Украінскі пад камандаваннем камандарма 1-га рангу С.Цімашэнкі і Беларускі пад камандаваннем камандарма 2-га рангу М.Кавалёва.

У Беларускі фронт уваходзілі: 3-я армія камкора В.Кузняцова, 2-я -- камдзіва Н.Мядзведзева, 10-я -- камкора І.Захаркіна, 4-я -- камдзіва В.Чуйкова, франтавая конна-механізаваная група камкора І.Болдзіна і 23-ці асобны стралковы корпус у складзе 52-й стралковай дывізіі і Дняпроўскай ваеннай флатыліі.

" У ноч на 17 верасня я знаходзіўся на НП 4-й арміі, -- пісаў будучы начальнік Генштаба С.Штэменка. -- Тут, як звычайна на парозе вялікіх падзей, усталявалася дзелавая напружанасць. Памінутна званілі тэлефоны, адзін за адным з'яўляліся і знікалі сувязныя з дывізій. І ўсё-такі здавалася, што час цягнецца невыносна марудна. Нарэшце абумоўлены загадам тэрмін пераходу мяжы настаў. Роўна ў 5 гадзін была пададзена каманда, і войскі пайшлі..." А вось сведчанне Яўгенія Далматоўскага: "Польскія стражніцы былі акружаны нашымі байцамі. Афіцэры стражніцы Загачча адчайна супраціўляліся. Застракатаў іх кулямёт, але неўзабаве змоўк: яго прымусілі змоўкнуць савецкія гранаты".

Пасля першых вестак аб пераходзе Чырвонай Арміяй польскай мяжы вярхоўны галоўнакамандуючы ўзброеных сіл Польшчы маршал Э.Рыдз-Сміглы аддаў загад: "З Саветамі ў бai не ўступаць, аказваць супраціўленне толькі ў выпадку спроб з іх боку раззброіць нашы часці, якія ўвайшлі ў сутыкненне з савецкімі войскамі. З немцамі працягваць барацьбу. Акружаныя гарады павінны змагацца. У выпадку, калі падыдуць савецкія войскі, весці з імі перагавор[illegible] мэтай дабіцца вываду на[illegible] гарнізонаў у Румынію і Венгрыю".

У Войску Польскім у маі 1939 года было 18,5 тысячы афіцэраў, у корпусе аховы межаў -- 846, у рэзерве -- 60 тысяч, у ад[illegible]цы -- 12 тысяч. У выніку [illegible]грому амаль мільённай польскай арміі ў верасні-кастрычніку 1939 года гітлераўскія войскі ўзялі ў палон больш 18 тысяч афіцэраў і 400 тысяч салдат. Частка польскай арміі змагла адысці ў Румынію, Венгрыю, Літву, Латвію.

Другая частка польскіх войск здала зброю Чырвонай Арміі.У верасні 1940 года былі апублікаваны частковыя даныя аб іх агульнай колькасці -- 181 тысяча салдат, прыкладна 10 тысяч афіцэраў. Польская літаратура (у краіне і ў эміграцыі) называе ад 220 да 250 тысяч, гітлераўскія матэрыялы -- нават да 300 тысяч інтэрніраваных. Лічбу 300 тысяч назваў і першы прэм'ер-міністр польскага эмігранцкага ўрада генерал В.Сікорскі. Савецкі ўрад у ліпені 1941 года яе абверг.

У пачатку кастрычніка 1939 года вышэйшае савецкае кіраўніцтва разглядала пытанне аб лёсе інтэрніраваных. З кастрычніка 1939 года з'явілася серыя дакументаў аб перамяшчэнні інтэрніраваных па лагерах, арганізацыі гандлю ў лагерах.

У распараджэнні Берыі ад 3 кастрычніка 1939 года гаварылася аб роспуску па дамах усіх салдат, жыхароў Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. "Некаторыя катэгорыі" салдат з этнічнай Польшчы трэба было сканцэнтраваць у Казельскім і Пуціўльскім лагерах да асобага распараджэння. Тым, хто знаходзіўся там, Берыя загадаў растлумачыць, што "яны пакінуты часова да вырашэння пытання аб парадку вяртання -- усім будзе забяспечана вяртанне на радзіму". Афіцэрскі састаў і буйных ваенных і грамадзянскіх чыноўнікаў належала сканцэнтраваць у Старабельскім лагеры, а паліцэйскіх, жандараў, турэмшчыкаў -- у Асташкаўскім.

З'явілася ўказанне Берыі аб падрыхтоўцы да 8 кастрычніка 1939 года дакументаў і фарміраванні каманд інтэрніраваных для перадачы германскім уладам у адпаведнасці з пастаянным месцам жыхарства. Органы НКУС не павінны былі вызваляць афіцэраў пад выглядам салдат.

У сярэдзіне кастрычніка 1939 года ўрад СССР вырашыў зрабіць абмен з Германіяй ваеннапалоннымі і інтэрніраванымі. Былі ўстаноўлены пункты перадачы: адзін у Беларусі і два на Украіне.

Германія прымала ваеннапалонных, "калі яны жылі ў нямецкай сферы ўплыву". Усяго на тэрыторыю этнічнай польшчы было рэпатрыіравана 42 492 чалавекі, "што пажадалі выехаць", як сказана ў савецкай зводцы 1941 года. Таму што калі пачалася адпраўка інтэрніраваных да месца жыхарства, многія адмаўляліся ехаць пад уладу нямецка-фашысцкіх акупантаў. Нягледзячы на загады, пратэсты супраць адпраўкі былі аж да прыбыцця на пункты перадачы. Тых, хто адмовіўся ехаць, павінны былі накіроўваць для рассялення і працаўладкавання. На практыцы гэта вылілася ў трэцюю хвалю дэпартацый летам 1940 года.

У СССР Германія перадала праз Брэст 24 670 і праз іншыя пункты 13 754 пастаянныя жыхары заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх зямель.

На працягу кастрычнікалістапада 1939 года з савецкіх лагераў было адпраўлена па дамах 42 400 беларусаў, украінцаў, палякаў, якія пастаянна пражывалі ў Навагрудскім ваяводстве, Палессі, Валыні,Львоўшчыне і іншых раёнах Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны.Аднак прынцып адпраўкі "на радзіму" паслядоўна не выконваўся. 19 лістапада 1939 года з'явілася ўказанне Берыі аб сканцэнтраванні пакінутых (ці не прынятых Германіяй?) афіцэраў у Старабельскім, Асташкаўскім і Казельскім лагерах.

Зрэшты, вернемся да падзей верасня 1939 года. Авангардныя падраздзяленні Чырвонай Арміі хутка рухаліся наперад, сустракаючы толькі слабае супраціўленне. Малалікія пагранічныя заставы і гарнізоны альбо складвалі зброю, альбо ішлі ў лясы. Супраціўленне ў асноўным зводзілася да разбурэння мастоў, мініравання дарог, узвядзення завалаў, каб затрымаць прасоўванне новага праціўніка.

Добра, што з польскага боку ўдзельнічаюць у баі толькі афіцэры. А што робяць у гэтую мінуту польскія салдаты? Зрэшты, ролі ўсіх грамадзян Польшчы дакладна распісаны: афіцэры крыху супраціўляюцца і гінуць; паны бягуць; беларусы, украінцы, а таксама яўрэі плачуць ад шчасця; простыя палякі ашаломлена глядзяць на баявую тэхніку Чырвонай Арміі. Забыты, праўда, польскія немцы.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

(Працяг будзе).

*ПАМЯЦІ Сяргея НОВІКА-ПЯЮНА*

# "Я МАЛЮСЯ ЗА ВАС..."

26 жніўня, у суботу, у Петрапаўлаўскай царкве на Нямізе адбылася паніхіда за светлую памяць Паэта -- Сяргея Новіка-Пяюна. Год мінуў, як ён адышоў да жыцця вечнага. Гэтая ж нагода сабрала ў сераду, 23 жніўня, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прыхільнікаў яго таленту, а таксама сяброў ды знаёмых на вечарыне "Зорачкі", зладжанай Беларускім паэтычным тэатрам аднаго акцёра "ЗЬНІЧ". Здавалася б, падзея сумная і жалобная сабрала разам людзей. Пакутнаю дарогаю церпніка прайшоў паэт у гэтым жыцці. Але ж як светла і лёгка, як цёпла і шчыра прамаўлялася ўсё, што ўспаміналася пра гэтага чалавека. Жнівень, спякота, яшчэ не скончыўся час адпачынкаў, але ў зале людзей было багата -- у асноўным творчая інтэлігенцыя. Здзівіўся, убачыўшы зусім малых дзетак. Але высветлілася, што Сяргей Міхайлавіч быў як дзед і бацька шмат у каго з прысутных. Мы чулі ягоны голас, запісаны на стужцы, апошні прыжыццёвы запіс. Сяргей Міхайлавіч спяваў. Гэта было ў красавіку леташняга года. Да яго ў маленькую кватэру на вуліцы Купрыянава прыйшлі госці. Сп-р Уладзімір Карміпкін, які зрабіў гэты запіс, казаў, што Сяргей Міхайлавіч не хацеў спяваць, але нехта з гасцей паведаміў, што неўзабаве ў Зянона Пазьняка дзень нараджэння, і тады Новік-Пяюн заспяваў свае песні, сказаўшы, што гэта -- ягоны падарунак.

Вечарына складвалася, як нізка ўспамінаў, кожны з каторых -- адметная пацерка ў ёй. Сп-р Яраслаў Пархута згадаў той маленькі лапік прасторы -- аднапакаёвачку, дзе жыў апошнія гады наш паэт. Быў гэта, па словах сп. Пархуты, і музей, і школа для яго: выходзіў ён адтуль пасля сумоўяў з гаспадаром з новаю ведай і новым досведам. Карціны, рэдкія кнігі, незвычайныя падарункі, абразы ў чырвоным куце -- шмат дзівоснага можна было тут пабачыць. Шмат хто наведваў самотнага гаспадара. Верныя сябры дапамаглі зрабіць гэты куток прыватным жытлом, але Сяргей Міхайлавіч вельмі мала пакарыстаўся ім як незалежны гаспадар.

Сп-р Сяргей Грахоўскі разважаў глыбока і трапна над лёсам паэта. А ці ж толькі паэта? Талентам кампазітара, музыканта, мастака быў адораны гэты чалавек, да якога цягнулася ўсё маладое і прыгожае. Горкімі былі тыя разважанні: ад усіх уладаў цярпеў Новік-Пяюн за Беларусь: ад дэфензівы, гестапа, НКУС. Але найбольш цяжкімі былі 10 гадоў папраўчых работ на Калыме. Калі яго нарэшце ў 1984-м, на 80-м годзе жыцця, прынялі ў Саюз пісьменнікаў, Ніпу Гілевічу як старшыні саюза давялося даваць усялякія тлумачэнні раздражнёным і незадаволеным ідэалагічным начальнікам у ЦК КПБ. Калі б не турмы ды лагеры, як аспляльна заззялі б таленты Сяргея Новіка-Пяюна, скрушліва разважаў Сяргей Грахоўскі. А эпіграфам да ягонае біяграфіі ён паставіў бы купалаўскія радкі: "Колькі талентаў звялося, не аплаканых нікім..." І далей, паводле сп-ра Грахоўскага, варта было б увесці на Беларусі званне "Народны Пакутнік". Шмат знайшлося б асобаў, годных гэтага звання, але першым, напэўна, быў бы Сяргей Новік-Пяюн.



Адметнасцю вечарыны я назваў бы яе сардэчна-сямейную атмасферу. Сапраўды, людзі папрыходзілі сем'ямі -- называліся Дзягілевы, Бабковы, Матрунчыкі, Жуковічы, Шніп-Рублеўскія... Да кожнай з іх Сяргей Міхайлавіч меў дачыненне: у каго быў хросным, каго суцешваў, каму даваў добрыя парады... Вольга Бабкова [illegible]упрацоўніца Нацыянальнага архіва, [illegible]павяла, што Сяргею Міхайлавіч[illegible]ніліся прарочыя сны. Аднойчы ён расказаў Вользе, як бачыў сваё пахаванне. Калі ж яго сапраўды хавалі, стаяў белы дзень, было цёпла, пыл выбіваўся з-пад колаў грузавікоў, што ехалі да Лявонавічаў на могілкі, і быў той пагорак, [illegible] якога Сяргей Міхайлавіч назіраў [illegible]эта ў сне. І, казала сп-ня Вольга, б[illegible] ўвесь час адчуванне прысутнасці самога Сяргея Міхайлавіча: не было жалобнае прыгнечанасці.

Таццяна Матрунчык (яна разам з сёстрамі брацтва Трох Віленскіх Пакутнікаў даглядала нямоглага паэта ў шпіталі) была ўражаная глыбокаю малітоўнасцю гэтага чалавека. Ён адчуваў сябе вельмі кепска, але ніколі ні на што не наракаў. "Дзякуй, родненькія, дзякуй", -- злятала ўвесь час з ягоных вуснаў. У адным з нумароў часопіса "Праваслаўе ў Беларусі і ў сьвеце" надрукаваны верш Новіка-Пяюна "Малітва". Па вобразах і настроях ён вельмі перагукваецца з вядомым вершам Наталлі Арсенневай. Спачатку падумалася, што верш Пяюна спазнаў уплыў арсеннеўскіх радкоў. Але вось што напісана пад творам: 1944 г., Слонім, турма, у чаканні расстрэлу. Малітваю за Беларусь было тады прасякнутае паветра, і чуйныя душы паэтаў адгукаліся на яе. Сяргей Міхайлавіч, працягвала думку Таццяна, меў глыбокі хрысціянскі досвед, ён і цяпер моліцца за нас.

Сп-ня Вера Жуковіч, настаўніца, раніцою дня, калі адбывалася вечарына, была пакліканаю да дырэктара школы. Што ж пачула настаўніца? А тое, што леташнія першакласнікі беларускамоўных класаў у гэтым навучальным годзе будуць вучыцца па-руску. Я не дачуў, што станецца з леташнімі шасцікласнікамі, якія навучаліся па-бела[illegible]ку. Але нават калі ў сёмым класе і д[illegible] іх будуць вучыць хоць па-марсіянску, яны ўжо не забудуцца на сваю мову. Не забудуцца яшчэ і таму, што да іх прыходзіў паэт Новік-Пяюн, а калі захварэў, яны прыходзілі да яго пагутарыць, паспяваць, пазабаўляцца. І так лёгка [illegible] з такою асалодаю чыталі і завучва[illegible]ныя спеўныя вершы! Сп-ня Вера [illegible]м з Сяргеем Новікам-Пяюном захаваюць у сённяшніх дзетак, а заўтрашніх дарослых любоў і пашану да роднага Слова.

Гучалі на вечарыне ўспаміны і песні маладых інтэлектуалаў-палітыкаў, сп-роў Палупанава і Знаўца, для якіх кароткія сустрэчы з Сяргеем Новікам-Пяюном сталіся нібыта адкрыццём. Сп-ня Галіна Смоляк, арганістка касцёла святых Сымона і Алены, мае свае містычныя стасункі з паэтам. На яе думку, толькі яго нябёснае заступніцтва давала ёй упэўненасць і моц пераадолець усе неспрыяльныя прыгоды і ў час прыбыць на вечарыну. Гучалі на ёй і цымбалікі звонкія, на якіх граў майстра сп-р Алесь Лявончык. І ўсе, так бы мовіць, кветкі ўспамінаў, гаркава-пахучыя, знітавала ў вянок дзяўчына-зорачка, яснавокая паненка Жэня Жуковіч. Яна чытала вершы Сяргея Новіка-Пяюна, які напэўна ж моцна цешыўся б, гледзячы на яе.

...Душа чыстая, тонкая, радасная,.. датклівы, але ж вясёлы і гаваркі, памятлівы і дасціпны,.. ён ніколі не заклікаў да крыві, але прасіў не помсціць нікому і ніколі... -- гучалі словы ўспамінаў пра паэта. Скончылася ж вечарына супольнаю малітваю за Беларусь і фоназапісам песняў Сяргея Новіка-Пяюна ў выкананні Данчыка. Усё пачутае і пабачанае не было выключна спантаннаю імправізацыяй. Гэта была сапраўды добра прадуманая і моцна збудаваная імпрэза. Пра сцэнарый парупілася знаная паэтка і літаратар, сп-ня Людміла Рублеўская, якая паспяхова выканала ролю вядучай.

І апошняе, што хачу сказаць. На пачатку вечарыны прагучала думка, што ёсць на шляху нашае Айчыны да Беларусі зоркі і зорачкі, якія асвятляюць гэты шлях і не даюць збіцца. Дык вось, паэт Сяргей Новік-Пяюн ёсць тое святло, якое, паводле Евангелля, у цемры свеціць, і цемра не паглыне яго. "Я малюся за вас", -- заўсёды казаў ён на развітанне.

**Зміцер КАЛІСТРА.**



**НА ЗДЫМКАХ: на вечарыне памяці паэта; фотастэнд, прысвечаны жыццю і творчасці Сяргея НОВІКА-ПЯЮНА.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

---

# ВЯЗЕНЬ ТРОХ РЭЖЫМАЎ

У архіве -- два нядаўнія лісты. Першы -- ад карэспандэнта з абласнога цэнтра. У ім і такія радкі: "Сапраўдную аскоміну набіла ўжо "лагерная" тэма..."

"Другі -- з далёкай Якуціі, ад пісьменніка Івана Ласкова (нядаўна ён пайшоў з жыцця). Дык вось што пісаў Іван Антонавіч: "У мясцовым КДБ чытаю таўшчэзныя тамы са справы Пеўзняка, ураджэнца Беларусі, першага сакратара Якуцкага абкома УКП(б), рэпрэсіраванага ў трыццатыя гады. Усяго ж каля двух дзесяткаў беларусаў -- з тых, хто ўсталёўваў савецкую ўладу ў Якуціі, -- трапіла ў сталінскія жорны. І дзе толькі нас ні знішчалі".

Пачынаючы расповед пра лёс беларускага паэта, кампазітара, мастака, краязнаўца, нашага сучасніка Сяргея Новіка-Пяюна (летась яго не стала), да слоў Івана Ласкова дадаць можна і наступнае: "І хто толькі нас ні знішчаў!" Прыкладам можа быць жыццё Сяргея Новіка-Пяюна.

1926 год. У Лявонавічах на Нясвіжчыне Сяргей Новік (тады дваццацігадовы юнак) стварае народны хор. З ахвотаю аддаюць сяляне рэдкую вольную часіну спевам. Тым больш, што юны кіраўнік вызначаецца высокай адукаванасцю і музычным талентам. За плячыма ў Сяргея -- навука, атрыманая ў прафесара Кацярыны Плімко-Банасевіч. Урокі ігры на скрыпцы маладому чалавеку падараваў віртуоз сваёй справы Тадэвуш Тадроўскі. І на рэпетыцыях, і ў канцэртных праграмах удзельнікі хору спявалі беларускія народныя песні. Як драматычны вынік асветніцкай дзейнасці маладога чалавека -- высылка Новіка-Пяюна з родных мясцін у заходнюю частку Польшчы. Здабываючы на пражыццё выпадковай працай, у высылцы Сяргей захапляецца літаратурнай творчасцю.

Першыя свае вопыты, спробы пяра паэт адпраўляе з высылкі ў дзіцячы часопіс "Заранка", які ў Вільні выдае Зоська Верас. Творы невядомага карэспандэнта друкуюцца пад псеўданімам "Малады Дзядок". А крыху пазней, ужо ў трыццатыя гады, напісанае Сяргеем Міхайлавічам выдаецца асобнымі кніжкамі. Галоўны лейтматыў творчасці Сяргея Новіка-Пяюна -- воля. Тады, у польскай высылцы, і напіша паэт народжаную ў сэрцы песню "Зорачкі".

**І скажыце, каб не плакаў**
**ні адзін,**
**Што ў выгнанні мучыцца**
**іх сын.**
**Прыдзе, прыдзе да нас**
**хутка ясны май,**
**Прылячу тады, як птушка,**
**ў родны край.**

Драматычны лёс песні, як і жыццё самога Новіка-Пяюна. Упершыню "Зорачкі" надрукуе ў пасляваенныя гады Рыгор Шырма як народную песню, складзеную паланянкамі, якіх фашысты вывозілі ў Германію на працу. "Зорачкі" -- і ёсць на тое дакументальнае сведчанне -- распявалі вязні фашысцкіх лагераў на рускай, украінскай, польскай мовах.

Адам Мальдзіс пасля адной з замежных камандзіровак напісаў паэту, што ў англійскай бібліятэцы знайшоў сведчанне аб тым, што "Зорачкі" вельмі любілі спяваць былыя вязні-бежанцы, якія знаходзіліся ў лагерах для "перамешчаных асоб" на тэрыторыі Заходняй Германіі. Адна немка, пачуўшы песню, расчулілася, заплакала, пачала распытваць пра аўтара. Ёй адказалі, што яго даўно няма сярод жывых...

А тады, у Вялікую Айчынную, Сяргей Міхайлавіч, выратаваўшы скарбы Слонімскай бібліятэкі, раённага музея, па меры магчымасцяў і сіл дапамагаў партызанам. Ды ізноў стаў вязнем. За гэтым разам -- рэжыма больш жорсткага і больш жахлівага.

Вось што ўспамінаў сам Сяргей Міхайлавіч:

-- 25 лістапада 1943 года па даносу здраднікаў я быў арыштаваны за антыфашысцкую дзейнасць... Праседзеў у слонімскай турме да 9 чэрвеня 1944 года. Няма сіл пераказаць усе здзекі, увесь той гвалт, каторыя мне давялося перанесці ў засценках СД. Як выжыў -- не магу і зразумець... 9 чэрвеня мяне і маю жонку Людмілу (арыштаваную 8 чэрвеня) у ліку 92 чалавек з слонімскай турмы праз Баранавічы адправілі ў Калдычэва.

... Арыштантаў па чарзе, -- працягваў расказваць Сяргей Міхайлавіч, -- пачалі выклікаць у камендатуру. Першай выклікалі маладую настаўніцу. Бегчы трэба было, а не ісці. Праз хвіліну пачулі душу раздзіраючы крык. А яшчэ праз некалькі хвілін два п'яныя, азвярэўшыя эсэсаўцы выпхнулі настаўніцу, усю скрываўленую, у падранай сукенцы... Дайшла чарга і да мяне. Выйшаў з камендатуры знаёмы мне Павел Чайкоўскі, назваў маё прозвішча. Мяне зацягнулі ў маленькі выбелены пакой. Сядзела ў ім чалавек дзевяць. Толькі двое з іх -- немцы. Астатнія -- нашы, беларусы, у форме СД. На сцяне віселі гумавыя дубінкі розных памераў. Адзін здаравенны дзяцюк спытаў маё прозвішча, імя, год нараджэння, якой веры, нацыянальнасць і хто я па прафесіі. Калі даведаўся, што перад ім беларускі паэт, зусім раззлаваўся.

-- А-а! Беларускі паэт! У свіх вершах бальшавікоў славіў! -- зароў эсдовец, бы шалёны звер.

Затым прыйшоў немец-перакладчык. Пагражаючы кулаком, пачаў драць горла і ён:

-- Што вы думаеце, што прыйдуць бальшавікі? Можа яны і прыйдуць, але мы вас ніводнага не пакінем!

Яшчэ некалькі пытанняў -- і Сяргея Міхайлавіча пачалі біць. Кулакамі па твары, па галаве. А пасля і гумавымі палкамі. Акрываўленага кінулі ў камеру.

Калі "прыём" усіх асуджаных быў завершаны, перад навічкамі адчынілі вароты і ўсіх загналі ў лагер.

Да апошніх дзён жыцця Новік-Пяюн не мог забыцца на Калдычэва.

Не было ні ў Калдычэўскім лагеры, ні ў слонімскім астрозе ў Сяргея Новіка-Пяюна ні паперы, ні пяра. Усе жахі і здзекі заносіла ў свой дзённік памяць. Яна, памяць, і захавала народжаныя ў нявол вершаваныя радкі.

Толькі праз шмат гадоў -- аж у 1984-м -- пабачыў свет першы пасляваенны зборнік Сяргея Міхайлавіча "Заўсёды з песняй". Асобным раздзелам у кнізе -- вершы, напісаныя ў фашысцкіх засценках. Да чытача гэтыя творы прыйшлі з вайны роўна праз сорак гадоў. Такога прэцэдэнта ў беларускай літаратуры яшчэ не было.

З фашысцкага палону Новіка-Пяюна вызвалілі партызаны. Не паспелі немцы расстраляць, знішчыць паэта. Але загінула яго жонка. Нядоўга пабыў на волі і ён сам. Ізноў, дзякуючы "пратэкцыі" даносчыка, Сяргей Міхайлавіч як "пасобнік фашысцкіх акупантаў" трапляе цяпер ужо ў савецкі канцлагер.

Новая нявольніцкая адысея Новіка-Пяюна працягвалася аж да 1959 года. Толькі атрымаўшы поўную рэабілітацыю, вярнуўся паэт на Беларусь.

Працаваў Сяргей Міхайлавіч больш "у стол". Толькі ў 1984 годзе паэта прынялі ў Саюз пісьменнікаў. З цяжкасцямі выходзілі танюткія яго кніжкі (у 1984, 1986 і 1993 гадах). Дарэчы, гулагаўскія вершы Новіка-Пяюна ўвайшлі толькі ў апошнюю з яго кніг.

Памёр паэт, пакінуўшы нам памяць пра шматпакутны свой лёс. Пасля Сяргея Міхайлавіча застаўся багаты архіў. Ён перададзены ў Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры. Няма сумненняў, што сярод шматлікіх ёмістых папак, захаваных Сяргеем Міхайлавічам папер месціцца нямала таямніц з гісторыі беларускай культуры.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ПРАЦУЮ АД СЭРЦА...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У нас ёсць актэт драўляных музычных інструментаў, у якім працуюць выдатныя музыканты пад кіраўніцтвам прафесара Барыса Нічкова. У іх рэпертуары каля ста твораў. А вось наш біг-бэнд працуе толькі ў галіне джаза, таксама мае каля 30 вялікіх праграм. Дарэчы, нядаўна мы ездзілі ў Сочы, дзе адбыўся Міжнародны фестываль, на спатканне з выдатным амерыканскім джазавым аркестрам Каўт Бэйсі. У песенным жанры працуем не толькі над асобнымі песнямі, якія становяцца папулярнымі, але і над цэлымі цыкламі, у тым ліку і на аснове беларускай класічнай паэзіі. У нас ёсць асобныя праграмы на вершы Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Аркадзя Куляшова, Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Валянціны Аколавай...

*-- А ці існуе сёння на музычным рынку "попыт" на такія творы?*

-- Канешне, хацелася б, каб яны былі больш папулярнымі. Аднак дастаткова яшчэ людзей, якім усё гэта неабыякава, якія любяць Бацькаўшчыну, яе душу, культуру. Хаця хапае і такіх музычных "гурманаў", каму ў песні даволі трох слоў і трох нот...

*-- Названыя вышэй праграмы таксама не запісаны ні на радыё, ні на тэлебачанні?*

-- Такое ўражанне, што беларускаму тэлебачанню ўсё гэта не патрэбна. Наогул, ужо два з паловай гады я не магу запісаць тут аніводнай праграмы. Нас проста не заўважаюць. Але ж мы не вельмі турбуемся, бо нямала здымаемся на маскоўскім "Астанкіна". Напрыклад, запісалі 210 праграм папулярнага конкурсу "Адгадай мелодыю". Вось і лічыце: 210 разоў на самую шырокую аўдыторыю і ў самы выгадны час прагучыць і наш аркестр, і, урэшце, наша краіна. Але мяне ўсё ж такі здзіўляе, чаму нацыянальная тэлерадыёкампанія так да нас ставіцца.

*-- Што ўяўляюць сабой праграмы, створаныя на аснове беларускай нацыянальнай паэзіі? Пераважна песні?*

-- ...І песні, і поп-оперы, песенныя оперы, песенныя цыклы. Яны разнастайныя. З усёй адказнасцю, як прафесіянал, музыкант, я падкрэсліваю, што ўсё гэта вельмі цікавыя творы. І мы будзем шкадаваць, калі людзей, якія іх стварылі -- музыкантаў, паэтаў, многіх з якіх ужо няма ў жывых, пакінем недзе там, у ценю грамадскай увагі і павагі.

*-- Дзе аркестр выступае з такімі праграмамі?*

-- Часцей за ўсё ў сталічнай філармоніі, на розных фестывалях. Але кожная праграма прагучала толькі некалькі разоў. Прагучала і ўсё... Ходу ёй далейшага, як я ўжо казаў, няма. Напрыклад, мінулы 1994 год быў годам Аркадзя Куляшова, вялікага паэта. Але ніводзін яго твор не ўвайшоў ні ў адну заключную перадачу розных песенных конкурсаў і фестываляў.

А ўвогуле, што тычыцца музыкі, -- яна бывае проста добрая ці дрэнная.

*-- І ўсё ж такі, да якой катэгорыі аркестраў вы адносіце свой калектыў?*

-- Афіцыйная наша назва -- аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі. У афішах -- Канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь. Гэтым мы нейкім чынам патрафляем той частцы публікі, якая пры слове "сімфанічны" кідаецца ўбок ад канцэртнай залы. На жаль. Ды і працей гучыць -- канцэртны аркестр, бо і сімфонія, і джаз, і эстрада -- усё гэта канцэрт. Такім чынам, і супраць логікі не грашым.

*-- Ваш аркестр -- аўтаномная структура?*

-- Так, мы самастойная канцэртная арганізацыя, такая ж, як і філармонія. Падпарадкоўваемся Міністэрству культуры, цалкам дзяржаўная ўстанова.

*-- Міхаіл Якаўлевіч, з такой шматграннай дзейнасці аркестра што асабіста для вас бліжэй, якая яго іпастась?*

-- Мне ўсё падабаецца, галоўнае, каб музыка была таленавітая.

А ўвогуле ў нас трэба шмат працаваць, бо калектыў атрымлівае вялікі план канцэртаў. Акрамя аўтарскіх праграм, нашы ўласныя, плюс 3--4 фестывалі. Норма 66 канцэртаў у год. Урэшце, Міністэрства культуры нас заўсёды падтрымлівае.

*-- Але, улічваючы агульны бядотны стан нашай культуры, мяркую, заработная плата ў вашых музыкантаў не надта вялікая. Ці не даводзіцца вам, як кіраўніку, выслухоўваць нараканні?*

-- Чаму ж не? Гавораць, канешне. Жыць жа цяжка. Але ўсе прыходзяць і выдатна працуюць, бо нашы музыканты -- людзі, улюбёныя ў сваю справу, у музыку. А ў прынцыпе, самі разумееце: музыкант атрымлівае стаўку 490 тысяч рублёў -- каля 40 долараў у месяц...

*-- І ніхто не звальняецца?*

-- Бывае, што нехта і пакідае аркестр. Хаця пакуль мне яшчэ ўдаецца стрымліваць гэты працэс. Але ўжо з апошніх сіл.

*-- Куды ж ідуць пасля вашага аркестра?*

-- Часцей развітваюцца з музыкай наогул і займаюцца камерцыяй. Гэта праблема вельмі балючая і вострая. Пакуль яе нібы не заўважаюць, але хутка яна зробіцца вельмі адчувальнай.

*-- Тым не менш аркестр трымаецца на еўрапейскім узроўні. Вы самі сябе так ацэньваеце, калі адкінуць беспадстаўную сціпласць?*

-- Без усялякай сціпласці я менавіта так і ацэньваю наш калектыў. У Еўропе ўвогуле няма падобных вялікіх аркестраў. За тое, што наша, сёння вельмі небагатая дзяржава ўтрымлівае такі калектыў, можна быць толькі ўдзячнымі ёй. Да пры[illegible]у, у суседняй, значна багацейша[illegible]льшчы такога калектыву няма. У Балгарыі -- няма. У Чэхаславакіі -- таксама няма. А раней там былі дзесяткі аркестраў. Калі "пойдзем" па Еўропе, то ў Італіі -- адзін такі аркестр, у Францыі -- адзін. У Іспаніі, здаецца, так[illegible] адзін -- на радыё. Усё.

Сёння, каб быць сучасным аркестрам, патрабуецца вельмі вялікае тэхнічнае абсталяванне. Нам пашанцавала: мы гэта ўсё маем. Тут аркестру дапамаглі спонсары -- Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод, які аплаціў кошт апаратуры. Дзяржава проста не здолела б гэта "пацягнуць".

*-- Хто з кампазітараў з вамі працуе? Вы задаволены супрацоўніцтвам?*

-- Я люблю нашых кампазітараў, паэтаў. Яны, безумоўна, таленавітыя людзі. Крыўдна іншае. Крыўдна, што яны не атрымліваюць вартай папулярызацыі, якой заслугоўваюць. У нас жа так: калі чалавек сціплы, то яго нідзе не бачна і не чутна. Выскачкі -- тыя заўсёды навідавоку, іх імёны гучаць у двух-трох праграмах штодзень.

*-- Давайце тады крыху дапаможам сціплым. Хаця б назавём іх імёны.*

-- Ведаеце, сціплых у нас многа. Гэта выдатныя кампазітары. Я б назваў Эдуарда Зарыцкага, Валерыя Іванова, Леаніда Захлеўнага, Уладзіміра Будніка, Валянціну Сярых, Ларысу Мурашка. Тут толькі некаторыя імёны.

*-- Я б не сказала, што пералічаныя імёны такія ўжо невядомыя...*

-- Але паверце мне, па ўзроўню свайго таленту яны заслугоўваюць значна большай папулярызацыі і вядомасці.

*-- Адкуль тады даволі пашыранае меркаванне пра невысокі ўзровень, правінцыяльнасць нашай беларускай эстрады, папулярнай музыкі?*

-- Абсалютна з такой ацэнкай не згодны. Магу сказаць толькі адно: калі б мы карысталіся такім экранам, як маскоўскія артысты, скажам, на першым канале "Астанкіна", то мелі б папулярнасці не меней.

Іншая справа, што сёння папулярнасць часта бывае ў таго, у каго ёсць грошы. За каго не плацяць, той амаль не мае шанцаў на папулярнасць. Зараз усё пераведзена на грошы. І гэта страшна. Я выхаваны па-іншаму і не магу спакойна ўспрымаць падобны стан.

*-- Такім чынам, узровень нашай сённяшняй папулярнай музыкі вы ацэньваеце...*

-- ... Нармальна. Нармальна, за выключэннем аднаго фактару, які для мяне проста непрымальны -- работа пад фанаграму. Недапушчальна, калі выканаўца з горам напалам за дзвеtry змены запісвае адну песню, а потым пяць год працуе з гэтай фанаграмай, калі за яго пяе магнітная плёнка, але зарплату атрымлівае так званы "спявак", прычым за кожны канцэрт. Я проста абураны такімі з'явамі. Дарэчы, за мяжой падобная практыка вельмі жорстка караецца. А ў нас -- нармальная рэч. Я спрабаваў гэтаму процістаяць. Але "ў чужы манастыр са сваім статутам..." У сваім жа "манастыры" -- я такога не дазваляю, на нашых канцэртах паняцце "фанаграма" наогул не прызнаецца. Ужо некалькі год я звяртаюся на тэлебачанне, каб стварыць музычную праграму прамога эфіру, дзе мы працавалі б "ужывую". Гэта было б вельмі цікава. Але там ніхто не хоча слухаць, ніхто не хоча працаваць. Паглядзіш -- і проста рукі апускаюцца.

*-- У вас у аркестры зараз колькі салістаў?*

-- Дванаццаць. А ўвогуле -- 160 чалавек. Салісты -- людзі маладыя, таленавітыя, усе з Беларусі. Мы іх самі знайшлі, прывезлі ў Мінск, самі і вучым. Бо работай навучальных устаноў не задаволены. Не было такога, каб я мог прывесці ў аркестр якога-небудзь дыпламаванага выпускніка і сказаць: вось гэта добра падрыхтаваны спецыяліст.

*-- Магчыма, гэта вельмі суб'ектыўнае, асабіста маё ўражанне, але калі слухаеш нашых маладых беларускіх спявачак, здаецца, што пяе адна і тая ж, адным і тым жа голасам, адну і тую ж песню, у адной і той жа манеры...*

-- Ёсць і такая з'ява. Усё ёсць. Ёсць і добрае, і дрэннае. Добрае не можа быць без дрэннага. Але тое, што ўсе салісты нашага аркестра таленавітыя людзі -- гэта адназначна. Дарэчы, усе спяваюць толькі "ўжывую", імкнуцца да свайго ўласнага стылю, усе яны вельмі музыкальныя. Калі я прапаную нейкі музычны матэрыял, праз некалькі дзён ужо ўсё падрыхтавана, я з імі не мучуся.

*-- Міхаіл Якаўлевіч, як я разумею, ваш аркестр ні ў якія "гульні" з шоу-бізнесам не гуляе?*

-- Гэта і не магчыма. Ва ўсім свеце вялікія аркестры ўтрымліваюцца дзяржавай. Ніякіх збораў не хопіць на аплату адных толькі пераездаў такой колькасці людзей, да таго ж фуры з апаратурай...

*-- Ці часта вам даводзіцца працаваць на выездах?*

-- Па Беларусі мы ездзім. Але, скажам, у Маскву ўжо толькі на аўтобусах, якія нам бясплатна хто-небудзь ахвяруе. На цягнік грошай не хапае. Вось так чатырнаццаць гадзін у аўтобусе, назаўтра -- канцэрт, і зноў чатырнаццаць гадзін -- назад з Масквы.

*-- Вашы канцэрты заўсёды аншлагавыя?*

-- Толькі аншлагавыя. На нашы канцэрты білет купіць вельмі цяжка.

*-- Якія аўтарскія канцэрты рыхтуюцца ў бліжэйшай будучыні?*

-- Аўтарскі канцэрт паэта Ніла Гілевіча, кампазітара Эдуарда Ханка, Уладзіміра Будніка, канцэрт памяці выдатнага беларускага кампазітара Юрыя Семянякі, а таксама бенефіс нашага гітарыста Уладзіміра Ткачэнкі і аўтарскі вечар музыканта, кампазітара Ігара Паліводы, які будзе прысвечаны класічнай беларускай паэзіі.

*-- Хочацца спадзявацца, што выбраны вашым калектывам накірунак папулярызацыі і прапаганды беларускага музычнага і паэтычнага мастацтва зробіць яшчэ больш папулярным аркестр, які ўсе мы так любім.*

-- Я веру ў такую музыку, яна мяне вывучыла, і здрадзіць ёй я не магу і не хачу. Я гэта раблю ад сэрца. Ніколі ніякай кан'юнктурай не займаўся і займацца не буду. Гэта мая вера, так я і буду працаваць.

**Гутарку вяла**
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## НОВАЯ КНІЖКА ПАЭТА




Калі вам трапіць у рукі кніжка вершаў Алеся Пісарыка, не гартайце яе паспешліва, знайдзіце вольную часіну і падумайце разам з паэтам над мінуўшчынай нашай старонкі, над сённяшнім станам душы беларуса і ўсяго грамадства, над будучыняй нашай дзяржавы. Як адзначае ў прадмове да зборніка "Пакуль гарыць мая зара" лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа Віктар Гардзей, вершы, сабраныя ў ім, прываблiваюць перш за ўсё сваёй шчырасцю, ледзь што не інтымнай даверлівасцю да чытача, яркай непрыдуманай вобразнасцю. Зрэшты, вы ў гэтым можаце пераканацца самі, прачытаўшы нізку вершаў, якую прапануе вам "Голас Радзімы".

**Алесь ПІСАРЫК**

### МАЛІТВА ДУШЫ

**Сцеражы мяне, Божа, ад зла
Бласлаўлёнаю мамай бажніцаю,
Каб маланка ахвяр не знайшла
І не страшна было навальніцаю.**

**Сцеражы мяне, Божа, ад слоў,
Што шугаюць атрутнымі стрэламі.
Пасылай больш чароўных буслоў
Хай надзеі клякочуць над стрэхамі.**

**Ефрасінніны мары вярні
Землякам, што цураюцца спадчыны,
Каб у светлым і змрочлівым дні
Крыж заступніцтва з годнасцю бачылі.**

**Разышліся славянства шляхі,
Што трымалі плебейскімі догмамі.
За дабро ці за нашы грахі
Мы з'яднаны адзінымі стогнамі!**

### РАЎНАДУШНАСЦЬ

**"Дзень пражыў, і дзякуй Богу,
Не было б вайны..."
Нарадзіліся ў эпоху
Дзіўныя сыны.**

**У эпохі ні аблічча,
Ні душы няма.
Прайдзісветы сэрца цвічаць:
Вырвіся з ярма!**

**З рук забойцаў кроў не змыта:
Чорная віна.
Д'ябал іх вітае мітынг
Гулам перуна.**

**Д'ябал крочыць там, дзе хоча.
Ці не быць бядзе!
Нам плююць паганцы ў вочы.
Кажам: дождж ідзе...**

* * *

**Залежнасць і рабства,
Брыдоцце і краты
Чакаюць таго,
Хто забыў Курапаты.**

**Не чуеце жалю,
Няўцешніцы-хвоі!
Сваімі ж забіты
Пад хвоямі воін!**

**Малітва нябёсаў
Душу надрывае:
Пабойцеся Бога,
Забойцы пры званнях!**

**Святло Адраджэння --
І ваша багацце.
За лепшую б долю
Нам разам змагацца!**

**Жыццё -- як імгненне...
Што скажуць унукі!
Што ім пакідаем
У шлях да навукі!**

* * *

**Злы душой -- дабрэй не стане.
У цябе, брат, і ў мяне
Камень з пазухі дастане --
І бязлітасна шпурне.**

**Злыдні ўедлівыя ўсюды --
Пры пасадах і пярстах --
Паслядоўнікі Іуды,
Непрыемнікі Хрыста.**

**Як ні думай, ні мяркуйся,
Што дабром асіліш зло:
Чарнадушнік люта ўкусіць
Там, дзе з болем зажыло...**

*ШТО МЫ СТРАЦІЛІ*

# КАШТОЎНАСЦІ З ДЗЯРЭЧЫНСКАГА ПАЛАЦА КНЯЗЁЎ САПЕГАЎ

У адным з нумароў мы гаварылі аб драматычным лёсе каштоўнасцяў Нясвіжскага замка. Сёння хачу прыгадаць не менш драматычны лёс каштоўнасцяў з Дзярэчынскага палаца князёў з роду Сапегаў, якія ў гісторыі вядомыя, як "Сапежанскі збор". Сапегі збіралі яго з XVI стагоддзя, як і Радзівілы.

Сапегі -- гэта другі па гістарычнай значнасці (пасля Радзівілаў) магнацкі род Беларусі, які паходзіць з полацкіх баяр. Княжацкі тытул яны атрымалі ў XVII стагоддзі. Менавіта выхадцы з гэтага роду разумелі, што яны прадстаўнікі іншага ад палякаў і рускіх этнасу, які павінен мець незалежную ад Польшчы і Масковіі дзяржаву. Таму з 1680 да 1700 года яны спрабавалі нават стварыць самастойную дзяржаву са сваёй дынастыяй, але іншыя шляхецкія роды іх ідэю не падтрымалі. У 1915--1918 гадах яны зноў намагаліся ўзначаліць так званую Літоўска-Беларускую дзяржаву, каб Беларусь не ўвайшла ні ў склад Польшчы, ні ў склад Расіі, але зноў марна. Лёс наканаваў Беларусі зноў быць у складзе новай формы Расійскай імперыі, але ўжо на новай аснове, быць у складзе СССР. Пасля выезду ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі ў Заходнюю Еўропу нашчадкі Сапегаў працягвалі падтрымліваць беларускі эміграцкі рух.

Дык вось гэтыя Сапегі, як і Радзівілы, пачынаючы з XVI стагоддзя збіралі ўласныя мастацкія зборы, бібліятэку і архіў у сваім Ружанскім палацы. У час падарожжа па Заходняй Еўропе яны набылі шмат твораў жывапісу і скульптуры, а таксама дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Сярод апошніх вялікую каштоўнасць мелі творы XVI стагоддзя -- залаты кубак з гербамі князёў Шуйскіх і два кубкі з горнага крышталю, названыя выключна па-беларуску: "Іван і Ваніха", адлаведна як: "Іван і Ваніха", адлаведна як і беларускі народны танец "Лявон і Лявоніха". Кубкі былі зроблены ў 1519 годзе па заказу ў памяць памершага Івана Сапегі, віцебскага ваяводы, і яго жонкі.

Паколькі многія з Сапегаў былі ваяводамі і гетманамі, то яны калекцыяніравалі зброю, конскую збрую і розную ваенную амуніцыю, якая мела адначасова значныя мастацкія каштоўнасці. Гаворка ідзе аб харугвах, шатрах турэцкіх і шведскіх, дыванах. Апрача згаданай калекцыі старажытных мастацкіх тканін, у Сапегаў знаходзілася серыя французскіх габеленаў, прысвечаных Аляксандру Македонскаму, вытканых па картонах Лебруна. Каштоўнасць збору надавалі і 48 экземпляраў вельмі рэдкіх мазаічных карцін, 5 этрускіх ваз, шмат мармуровых і бронзавых скульптурных фігур, партрэтаў і барэльефаў; мастацкія бронза, шкло і мэбля; калекцыя заходнееўрапейскага жывапісу і жывапісныя работы мясцовых мастакоў.

Асабліва павялічыў ружанска-дзярэчынскія зборы Францішак Сапега, які ў выніку шлюбу ў 1793 годзе з дачкой Шчаснага Патоцкага атрымаў шмат твораў мастацтва, у тым ліку і габеленаў. Ды і сам ён набыў галерэю заходнееўрапейскага жывапісу знакамітых мастакоў у час сваіх падарожжаў па Еўропе. На рубяжы XVIII--XIX стагоддзяў Сапегі перавезлі ўсе свае лепшыя зборы ў новы палац, пабудаваны ў Дзярэчыне ў 1786 годзе.

Пасля нацыянальна-вызваленчага паўстання 1831 года ўсю маёмасць Сапегаў расійскія ўлады канфіскавалі.

Частку мастацкага збору з Дзярэчынскага палаца перавезлі ў Беластоцкі палац, які раней належаў гетману Браніцкаму, але пасля 1795 года, гэта значыць трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, палац Браніцкіх быў канфіскаваны і лічыўся царскай рэзідэнцыяй на ўскраіне Расіі. Там дзярэчынскі збор доўга не затрымалі. Пасля прыстасавання Беластоцкага палаца ў 1836--1847 гадах пад расійск[illegible] тауніцкі інстытут расійскія [illegible]ды адправілі дзярэчынскія скарбы ў Пецярбург і Царскае Сяло, прыхапіўшы пры гэтым і мастацкія каштоўнасці Я. Браніцкага. У гэты ж час яны вывезлі [illegible]частоцкія паркавыя статуі і [illegible]навілі іх у Летнім садзе Пецярбурга.

Гродзенская скарбавая палата пераслала ўладам Пецярбурга спісы канфіскаванага збору з Дзярэчынскага палаца на 7 старонках убористага тэкста, з якога вынікае, што было вывезена 287 карцін вядомых заходнееўрапейскіх мастакоў (Рэйсдаля, Франчыя, Веранезе, Кало, Вярнье і многіх іншых). З іх 185 карцін і 48 мазаічных кампазіцый перадалі ў Эрмітаж, 55 -- Імператарскай акадэміі мастацтваў, 72 карціны ў 1917 годзе аказаліся ў Гатчынскім палацы. Толькі 5 партрэтаў Мікалай І загадаў спаліць, менавіта тых дзеячаў Вялікага Княства Літоўскага, якіх лічыў "польска-літоўскімі патрыётамі". Некалькі партрэтаў пазней ужо вярнуў Сапегам цар Аляксандр ІІ. У Эрмітаж трапілі і 22 мармуровыя скульптуры, у тым ліку 10 міфалагічных постацяў вялікіх памераў, такіх, як "Арфей" работы Кановы, некалькі бюстаў знакамітых гістарычных дзеячаў старажытнасці. Сярэбраныя творы мастацтва трапілі ў музей старажытнасцяў пры Пецярбургскім манетным двары, які ў 1924 годзе быў падначалены Эрмітажу. Адначасова былі перададзены вельмі каштоўныя калекцыі мастацкага шкла, мэблі і калекцыя графічных твораў у выглядзе эстампаў з карцін заходнееўрапейскіх мастакоў, альбомы па мастацтву і архітэктуры; выдадзеныя ў Заходняй Еўропе кнігі і карты; планы гарадоў, а таксама чарцяжы розных тэхнічных прыстасаванняў; архіў з 287 кодэксаў, якія ўтрымлівалі старажытныя дакументы роду Сапегаў, перапleцены як кнігі ў добрыя вокладкі. Кодэксы падзялілі паміж Міністэрствам замежных спраў і Расійскай публічнай бібліятэкай у Пецярбургу. Між іншым, 87 такіх кодэксаў усё ж засталося ў Гродне, а пазней іх перадалі ў бібліятэку Віленскага універсітэта. Яны ўтрымліваюць каштоўную для Беларусі навуковую інфармацыю пра ткацкую, дывановую і карэтную мануфактуры Сапегаў, якія дзейнічалі ў XVIII стагоддзі ў Ружанах.

Трэба адзначыць, што былі канфіскаваны і каштоўнасці Сапегаў, якія яны схавалі ў маёнтку Юндзілавічы. Каб даведацца, дзе яшчэ былі схаваныя каштоўнасці, расейцы нават катавалі ўпраўляючага дзярэчынскага палаца. Дарэчы, катаванне было прыменена і да ўпраўляючага Нясвіжскага палаца Бургельскага. Гэты факт стаў вядомы пасля суда над упраўляючым.

Увогуле "Сапежанскі збор каштоўнасцяў значна ўзбагаціў царскія зборы ў Пецярбургу і Маскве.

Пасля Рыжскага мірнага дагавора 1921 года, да ўдзелу ў якім урад БССР расіяне не д[illegible] пусцілі, да палякаў адышла заходняя частка Беларусі. На працягу 20-х гадоў яны вялі з СССР пастаянныя перамовы аб перадачы Польшчы сапегаўскіх каштоўнасцяў. Частку гэтага збору, які належыць усё ж Беларусі, СССР перадаў Польшчы на працягу 1928--1930 гадоў.

Прэтэндуючы на гэты збор і літоўцы, якія шмат беларускіх каштоўнасцяў атрымалі ад СССР у пасляваенныя часы (жывапісныя партрэты Янішэўскіх і графічныя творы, якія да 1842 года былі ў лагойскім музеі Тышкевічаў, а таксама ўрэцка-налібоцкае шкло, выраблёнае ў XVIII стагоддзі на мануфактурах Беларусі).

Значная частка "Сапежанскага збору" яшчэ знаходзіцца ў зборах Расіі, і яе трэба шукаць, каб вярнуць на месца яго збірання хоць рэшту.

Увогуле, усе ўрады (капіталістычныя і сацыялістычныя) Польшчы і Літвы ХХ стагоддзя заўжды надавалі дзяржаўнае значэнне вяртанню каштоўнасцяў, часам нават чужых пад выглядам сваіх.

Шкада, што ні ўрад БССР, ні сучасныя ўлады не лічаць гэту справу дзяржаўнай, карыснай і патрэбнай.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**



**Драздоўскае вадасховішча пад Мінскам.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## КЛУБ ЭСПЕРАНТЫСТАЎ

Трэці год у Віцебску працуе клуб эсперантыстаў імя Янкі Маўра. Чаму Маўра, спытаеце вы. А таму што на Беларусі эсперанта актыўна займаўся Я.Маўр, які перапісваўся з многімі эсперантыстамі свету. А звесткі, атрыманыя з карэспандэнцый, выкарыстоўваў пры напісанні сваіх твораў "У краіне райскай птушкі", "Амок", "Сын вады".

Віцебскія эсперантысты таксама маюць мноства карэспандэнтаў у краінах блізкага і далёкага замежжа. Мы пастаянна пашыраем свае рады. Хто хоча стаць членам віцебскага клуба, можна напісаць на адрас: **210035, Віцебск, абанентная скрыня 2, Івановай Святлане Цімафееўне.**

Эсперанта -- дапаможная штучная мова, якая была створана ў 1887 годзе варшаўскім урачом і паліглотам Л.Заменгафам, названа ад яго псеўданіма Doktoro Esperanto (той, хто спадзяецца). Алфавіт эсперанта (28 літар) пабудаваны на аснове лацінскай графікі. Лексіку складаюць словы, утвораныя пры дапамозе афіксаў ад каранёў асноўных еўрапейскіх моў. Як бачым, і колькасць літар малая, і граматыка вылучаецца простымі правіламі.

З 1908 года працуе Міжнародная ўсеагульная эсперанцкая арганізацыя. На жаль, у суверэннай Беларусі на сённяшні дзень няма арганізацыі, якая б каардынавала рух беларускіх эсперантыстаў на дзяржаўным узроўні.

На эсперанта перакладзены творы Дантэ, Гётэ, Мальера, Шэкспіра, Тагора, Лермантава, Гогаля, Маякоўскага, Купалы.

Удзельнікі клуба працуюць над стварэннем "Беларуска-эсперанцкага слоўніка" і "Эсперанта-беларускага слоўніка".

Адзначым, што вучоныя і пісьменнікі Эйнштэйн, Барбюс, Мічурын, Л.Талстой, М.Горкі, Я.Маўр высока ацэньвалі эсперанта як эфектыўны дапаможны сродак міжнародных зносін.

Віцебскія эсперантысты перакананы, што гэта мова вялікай дружбы зямлян планеты. І Беларусі, калі яна хоча звацца цывілізаванай дзяржавай, трэба эсперанцкая граматa. Ці толькі наша дзяржава незалежная ў тым сэнсе, што ад яе не залежаць культура нацыі, яе супрацоўніцтва з розумам і інтэлектам іншых дыяспар?

З павагай

**Святлана ІВАНОВА,**
**кіраўнік клуба.**

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

**ШЫДЛОЎСКАЯ Феліцыя Міхайлаўна** шукае свайго брата **ЧАПКОЎСКАГА Станіслава Міхайлавіча**, 1924 года нараджэння, які быў вывезены ў Германію ў вайну. З таго часу аб ім амаль нічога невядома, але ёсць неправерaныя звесткі, што бачылі яго ў Польшчы пасля вайны.

Калі хто-небудзь сустракаў або нешта ведае пра лёс майго брата **ЧАПКОЎСКАГА Станіслава Міхайлавіча**, просьба паведаміць на адрас: Беларусь, Мінск, пр.газеты "Известия", дом 22, к. 1, кв. 184. **ШЫДЛОЎСКАЙ** Феліцыі Міхайлаўне.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 3558. Падпісана да друку 4. 9.1995 г.